ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Жнівень 2014 - 2

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"

## У НУМАРЫ:

- ТЭСТАМЕНТ (на долю ў праве ўласнасці на асобныя віды маёмасці аднаму спадкаемцу)

- ТЭСТАМЕНТ (на асобныя віды маёмасці некалькім спадкаемцам з указаннем прыналежнай ім долі)

- ТЭСТАМЕНТ (на асобныя віды маёмасці некалькім спадкаемцам з размеркаваннем маёмасці паміж імі і вызначэннем прыналежных ім доляў)



**ТЭСТАМЕНТ**

*(на долю ў праве ўласнасці на асобныя віды маёмасці аднаму спадкаемцу)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

½ (адну другую) долі ў праве ўласнасці на зямельны надзел і ½ (адну другую) долі ў праве ўласнасці на размешчаным на ім жылы дом нумар ___ (____), што знаходзіцца ў Гомельскай вобласці, горадзе Мазыры, па вуліцы Купалы, я пакідаю ў спадчыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*.

**ТЭСТАМЕНТ**
*(на асобныя віды маёмасці некалькім спадкаемцам з указаннем прыналежнай ім долі)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

зямельны надзел, што належыць мне на праве ўласнасці плошчай 0,545 га, з размешчаным на ім садовым дамком нумар ____ (____), што знаходзіцца ў Гомельскай вобласці, Веткаўскім раёне, садаводчым таварыстве “Захад”, я пакідаю ў спадчыну наступным чынам:

- ¾ (тры чацвёртыя) долі – сыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку;*
- ¼ (адну чацвёртую) долі – дачцэ *Прозвішча Імя Імя па-бацьку.*

**ТЭСТАМЕНТ**

*(на асобныя віды маёмасці некалькім спадкаемцам з размеркаваннем маёмасці паміж імі і вызначэннем прыналежных ім доляў)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

з маёмасці, што мне належыць:

- зямельны надзел плошчай 0,545 га, з размешчаным на ім садовым дамком нумар ____ (____), што знаходзіцца ў Гомельскай вобласці, Веткаўскім раёне, садаводчым таварыстве “Захад”, я пакідаю ў спадчыну наступным чынам:

- ¾ (тры чацвёртыя) долі – сыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку;*
- ¼ (адну чацвёртую) долі – дачцэ *Прозвішча Імя Імя па-бацьку.*

- гараж нумар ___ (____), размешчаны ў горадзе Гомелі, па вуліцы Купалы, дом ____ (_____), у гаражным спажывецкім кааперативе “Усходні”, я пакідаю сыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку* і дачцэ *Прозвішча Імя Імя па-бацьку* ў роўных долях кожнаму.

*“Справаводства па-беларуску!-2014”*

M&S MEDIA

Тэматычны неперыядычны дадатак
да газеты "Гомельскія Навінкі"
*“Справаводства па-Беларуску!”*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя
“Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску”

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:***
**gnavinki@gmail.com**

M&S MEDIA